# ПАГОНЯ

**Адрэс рэдакцыі і канторы:**
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень ад 8—3 гадз.

**ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.**

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

**Падпіска каштуе:**
на **10** № № ўпярод — **10** зал.
„ **5** „ „ — **5** „
Кошт асобнага № — **1** „

**Рукапісы** не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюцца па погляду Рэдакцыі.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залаты на опошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**№ 9.** | **Коўна, Чацьверг, 23 верэсьня 1920 году.** | **Год І-шы.**

## АД РЭДАКЦЫІ: Рэдакцыя „Пагоні“ разам з Сталом Друку Міністэрства Беларускіх Спраў, пераносіцца з 23 верасьня 1920 г. ў Вільню, Дамініканская, 3.

## Адозва.

Беларусы! Многа шпіонаў асталася ў нашэй зямельцы, пакінутых ворагамі, якія за польскія грошы, або за маскоўскія, цягнуць Вас ў бок Польшчы, або Расеі і хочуць парозьніць Вас з братнім літоўскім народам. Ня слухайце іх нашэптаў, бо яны нясуць для Вас згубу! У часе акупацый нашай зямлі рознымі ворагамі паўстала шмат арганізацыяў, якія падшыўшыся пад назову беларускую вядуць сваю шальмоўскую работу. Цяперака, як наша зямелька асвабоджана ад ворагаў, Міністэрства Беларускіх Спраў приступае да арганізаваньня нацыянальнага беларускага жыцьця і дзеля гэтага ва ўсіх справах трэба зьвяртацца да самага Міністэрства, або да ўсіх урадовых установаў, або да тых нацыянальных арганізацыяў, якія будуць зарэгістраваны Міністэрствам Беларускіх Спраў.

Міністэр Д. СЕМАШКО.

Коўна 17 верасьня 1920. г.

◆◆◆◆◆◆

## Грамадзяне вызваленаго краю!

Праўда перемагае.

Крыўдай і уціскам век жыць ня можна.

Вялікая дэспатычная Расея і немцы, што давілі нас і іншыя прыціснутыя народы, у рэшці перагрызьліся памеж сабой, як дзьве ашалеўшыя сабакі і зьелі адзін другога.

Варшаўскі Урад хацеў тоя самая зрабіць з Літвой. Ен наслаў свае легіоны на Літву, хочучы яе здусіць. Легіоны варшаўскія занялі Вільно і тую часьць Літвы, дзе вы жывеце. Вы многа цярпелі, а мы доўга змагаліся, каб ім не аддаць Коўны і рэшты Літвы.

Праўда перамагла.

Варшаўскія легіоны зламаны, выгнаны з краю, які ніколі да іх не прыналежыў.

Вы злучаецеся навекі з сваей маткай Літвой. Мы прыходзім да вас з Коўны. Вітайце браты. Матка Літва атверае вам свае рамёны і нясе вам свабоду, зямлю, хлеб і мір.

Ня верце інтрыгам і лганьню, выкідываным на наш Літоўскі Урад.

Наш Урад ёсьць выбраны праз вас самі́х: землеробаў і работнікаў, праз усіх грамадзян Літвы бяз рожніцы рэлігіі, нацыянальнасьці і класоў. Наш Урад працуе колькі можэ дзеля нашага пажытку і паступае таксама справядліва з кожным грамадзянінам, усё адно якую ён мае мову і якую рэлігію.

У будучыне будзем выбіраць паслоў да Ўраду умесьці з Вамі,

Умесьці з вамі будзем працаваць дзеля супольнага дабра, умесьці з вамі будзем бараніць сваю Бацькаўшчыну, свае хаты, свае дабро і спакой.

Зьвязак літоўскіх стрэльцоў заве вас да гэтай працы.

Гэта ёсьць тыя самыя, што памаглі літоўскаму войску выгнаць немцаў з Літвы, тыя, што цяпер памагаюць выганяць варшаўскія легіоны.

У зьвязак літоўскіх стрэльцоў уступаюць ўсе праўдзівыя грамадзяне нашага краю, гаспадары, работнікі, вучоныя і нявучоныя. З намі ёсьць ўсе, хто хочэ Літвы незалежнай, дэмакратычнай, багатай і шчасьлівай.

Уступайце сюды і вы Будзьце нашымі сябрамі.

Цяпер нас чэкае праца. Трэба скончыць выганяць рэшткі легіонаў. Трэба ачысьціць наш край ад апрычнікаў, разбойнікаў, шпіонаў і ўсіх ворагаў незалежнай Літвы.

Уступленьне ў гэты зьвязак не цягне да прымусовай ваячкі.

Літоўскія стрэльцы боруцца і працуюць бэз прымусу дзеля сваей свабоды.

Яны ставюць сабе гэткія заданьня:

1) пазнаць ваенная рэмясло, 2) у выпадку патрэбы—дапамагаць міліцыі, 3) рыхтаваць сябе пры помачы спорту, 4) асьвета, 5) пабуджаць пачуваньне людзкасьці і прывычэк спаўняць грамадзкія абавязкі, 6) арганізаваць элімпійскія ігры (хоры, аркестры, канцэрты, маёўкі, экскурсыі і гэтак далей).

У сучасным мамэнці:

а) ачышчаюць сваю аколіцу ад шпіонаў, агэнтаў варожых гаспадарстваў, агітатароу працуючых на шкоду Дэмакратычнай Літоўскай Рэспублікі (гэткія аддаюцца ў рукі міліцыі), б) ловюць кантрабандыстаў і аддаюць іх міліцыі, в) даносяць цэнтральнай Уладзе Літоўскіх Стрэльцоў аб непраўных пастуках мейсцовых чыноўнікаў і міліцыі (пажаданы толькі спраўджэныя факты).

Асновы арганізацыі:

1) Стрэльцы арганізуюцца атрадамі у граніцах парафіі, або воласьці,

2) Дзеля аткрыцьця атраду патрэбна ня меньш 3 чалавек.

3) Арганізатары пасылаюць паведамленьня Цэнтральнай Уладзе Літоўскіх Стрэльцоў ў Коўні аб тым, што праэктуецца адкрыцьце атраду (назова парафіі, чы воласьці) і прысылаюць сьпіс кандыдатоў з паказаньнем: а) мейсца жыхарства, б) узросту (веку), в) прафэсыі кожнага кандыдата. Апрыч таго указывае з памеж сябе кандыдата на Камандзера атраду.

4) Пажадана, каб арганізатары да паведамленьня выдавалі пасьведчэньня аб сваей лояйльнасьці ад сваей воласьці.

5) Цэнтральная Улада зацьверждае адкрыты атрад і яго Камандзера.

6) Адкрыты атрад, не чэкаючы адповедзі Цэнтральнай Улады, уходзе у кантакт з мейсцовай міліцыей, памагаючы ёй падтрымываць парадак.

7) Стрэльцы атраду па вёскам дзелюцца на калоны. з калонным упярод.

8) Калі у парафіі, чы воласьці знайдзецца 10 стрэльцоў, то яны выбіраюць Праўленьне з трох асоб, якія забоцяцца аб сьродках, кантролю Камандзера атраду і яго распараджэньня па адміністрацыі.

9) Сяброў спачатку прынімае Камандзер, а па выборах—Праўленьне разьведаўшы добра кожную прыймаемую асобу і прыймаючы толькі самых надзёжных, састаўляе сьпісак сьведчучы сваімі подпісамі, што асобы ў сьпіску ўсе надзежныя і пасылае яго ў Цэнтральную Уладу дзеля зацьверджэньня.

10) Цэнтральная Улада выдае ўсім сябрам належныя пасьведчэньня.

11) Цэнтральная Улада зьвязку Літоўскіх Стрэльцоў мае адрэс: Коўна, Аллея Свабоды № 26.

**Зьвязак Літоўскіх Стрэльцоў.**

Коўна, ліпеня 22 дня 1920 году.

Замяшчаючы адозву Сувязі Літоўскіх Стрэльцоў, Редакцыя „Пагоні“ падае да агульнага ведама беларусоў, што пачалася ужо арганізацыя стральцоў-беларусоў, якие нараўне з літоўскімі сябрамі будуць бараніць ад ворагаў супольную бацькаўшчыну-Літву.

◆◆◆◆◆◆

Спаўняючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі Старшыня Устаноўчага Сойму апавешчае гэты закон, прыняты Устаноўчым Соймам 11 жніўня 1920 году.

### Ўвадзімы закон зямельнай рэформы аб адчужэньню лясоў, водаў і зямель, набытых прывілеяваным чынам.

§ 1.

Ў карысьць Літоўскай Рэспублікі адчужаюцца прыналежачыя прыватным асобам:

а) лясы і пасекі, калі яны больш 25 дзесяцін,

б) балоты і тарфяныя балоты,

в) адкрытыя, невысыхаючыя воды з мейсцам разнога цячэньня і вазеры,

г) Іскапаемае багацьце, зьродлы мінэральных водаў і патрэбная для іх эксплоатацыі плошчадзь зямной паверхнасьці.

Увага: Адчужэньне не датычэ маентнасьцяў, паказаных ў пунктах а, б, в, калі яны прыналежуць местам, мястэчкам і вёскам, чы ўласьнікам, якія ўсяго маюць ня больш 70 дзесяцін, чы 140 маргоў зямлі, чы трудавым грамадам, якія эксплоатуюць успамянутыя маентнасьці на патрэбы сваіх членаў, выключаючы балоты, калі іх асушка патрэбна для мельерацыі зямлі, чы здароўя жыхароў.

§ 2.

Майёраты, ленымі правамі упраўляемыя маёнткі, а таксама маёнткі, падараваныя установам, чы прыватным асобам ў Літве, землі і іншыя нерухомыя маентнасьці, а роўна і інструкцыённыя і пры рускім Урадзе на льготных варунках набытыя маёнткі, з ўсей прыналежачэй да іх маентнасьцю і інвэнтаром, аб'яуляюцца ўласнасьцю Літоўскай Рэспублікі і быўшыя іх правіцелі не атрымываюць за іх ніякога вынаградзэньня.

Увага І. Калі ў адчужаемых лясох, зямлёх, вадох і балотах, прыналежачых ўспамянутым ў § § 1 і 2 ўласьнікам маюцца сэрвітуты мейсцовых жыхароў, то іх, мейсцовых жыхароў, правы карыстаньня застаюцца недатычнымі.

Увага II. Праводзючы гэты параграф, бяруць пад увагу ўсе маёнткі і гаспадаркі, якія упраўляюцца па закону аб майёраце ў Заходнім краю (руск. Зак. X т I ч. ст. 304, 494-512, 969, 1181-1183, 1214-1217, і 1263) і правіламі, узтаноўленымі рускім урадам па указам аб майёратах, быўшых у польскіх губэрнях, ад 4/16 кастрычніка 1835 г, і 6 сьнежня

